Іван Лагвіновіч

# Элегія палескага матыля

Вершы

Мінск, “Кнігазбор”, 2011

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)-5
Л14

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
“Кнігарня пісьменніка”. Выпуск 11.
Заснаваная ў 2009 годзе.

Прадмова
Анатоля Сідарэвіча
Пасляслоўе
Леаніда Галубовіча

Лагвіновіч, І.
Л14 Элегія палескага матыля: вершы / Іван Лагвіновіч. – Мінск : Кнігазбор, 2011. – 88 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка” ; вып.11)
ISBN 978-985-6976-87-5.

Паэт Іван Лагвіновіч памёр 29 сакавіка 2011 года. Гэта кніга змясціла апошні, яшчэ ім самім складзены зборнік «Свечкі трыпутніка» і яшчэ два дзясяткі лепшых вершаў, напісаных на працягу ўсяго творчага шляху. Адмысловы лірычны склад мастацкага мыслення і вычування паэта навідавоку. Шкада, што шырокае кола прыхільнікаў беларускай паэзіі мала ведае пра яго творчы плён. Спадзяёмся, што з выхадам гэтай кніжкі самабытны талент Івана Лагвіновіча будзе заўважаны і належна ацэнены.

**ISBN 978-985-6976-87-5.**

## «Быў я сціплым паэтам…»

Івана Лагвіновіча з хутара Запрапасць Ганцавіцкага раёна паводле ўзросту і літаратурнага стажу можна аднесці да таго пакалення нашых пісьменнікаў, якое даўно ахрышчана філалагічным і якое згуртавала ў сваіх шэрагах творцаў ад Уладзіміра Караткевіча да Алеся Разанава і Яўгеніі Янішчыц, але ён – разам з некаторымі іншымі – выпадае з гэтага пакалення.

На жаль, я ані разу не гутарыў са сваім земляком (яго Малькавічы і маё Задуб'е – суседнія вёскі, дый Запрапасць суседзіла з Задуб'ем). Мімалётнае спатканне пад Зэльваю на ўгодках Ларысы Геніюш было нашаю адзінаю сустрэчаю. Цяпер ужо не ад Івана, а ад іншых трэ' даведацца, калі іхні хутар калектывізавалі, калі Лагвіновічы мусілі пакінуць абжыты кут і перабрацца ў Малькавічы (адтуль паходзіць іхні род).

Мы (у розны час) вучыліся ў адной школе. Было б цікава даведацца, чаму ён не пайшоў пасля сямігодкі ў восьмы клас (якраз у 1954 годзе, калі І. Лагвіновічу было 14 гадоў, у Малькавічах пабудавалі двухпавярховую школу). Што было прычынаю ягонага ад'езду ва Украіну, у Данбас? Вядома, агульны для Малькавіч і Задуб'я калгас «Бальшавік» не мог забяспечыць дастатак, колькі ты ні працуй. Але ў Малькавічах меліся чыгуначная станцыя, лесапункт і лесасклад Ганцавіцкага леспрамгаса з вузкакалейкай і дэпо, лясніцтва, смалакурня, тартак, малочня, пякарня, сельпо (чатыры крамы ў дадатак да леспрамгасаўскай і чыгуначнай), бальніца, сярэдняя і пачатковая школы, дзіцячы дом, клуб, бібліятэка… Нямала людзям давалі лясы, балоты і тады яшчэ рыбная Цна. Людзі нейк жылі, гадавалі дзяцей…

Цікава было б пачуць пра першыя паэтычныя спробы (складаць вершы пачаў у 3-м класе), пра тое, як пачуваўся схільны да паэзіі юнак у новай моўнай стыхіі. А што юнак і на чужыне складаў вершы, пра тое сведчыць ягоны дэбют 10 верасня 1960 года ў «Чырвонай змене». Тут мала месца, каб патлумачыць, чым была «Чырвонка» для творчае моладзі таго

часу. Дастаткова сказаць, што ў тым самым нумары «ЧЗ» былі таксама надрукаваныя вершы пазней дастаткова вядомых Генадзя Дзмітрыева, Уладзіміра Верамейчыка, Васіля Макарэвіча, Міколы Маляўкі, Яраслава Пархуты і Рамана Тармолы.

Мы ведаем, што І. Лагвіновіч пісаў вершы па-беларуску і пазней, ды вось цікавы штрых: у зборніку яго выбраных твораў «Ляда юдолі» (Баранавічы, 2003) самыя раннія творы датаваныя 1986-м годам. Значыць, усё напісанае раней аўтар не лічыў патрэбным уключаць у кніжкі.

Да сюжэту аб патрабавальнасці паэта да сябе я вярнуся, а зараз мушу адзначыць адно істотнае адрозненне І. Лагвіновіча ад паэтаў яго пакалення: ён меў за плячамі адно сем класаў і рамеснае вучылішча, у той час як усе іншыя мелі мінімум сярэднюю спецыяльную ці незакончаную вышэйшую адукацыю. Адстаўшы ад аўтараў свайго пакалення, І. Лагвіновіч здолеў узяць рэванш. Гэты рэванш стаў магчымы пасля вяртання паэта ў 1991 годзе на Бацькаўшчыну (спачатку жыў у Паставах, а з траўня 1992-га – у Баранавічах). З другое палавіны 1990-х яго вершы друкаваліся ў зборніках «Агледзіны» (1998) і «Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны» (1999), у баранавіцкім альманаху «Святліца» (2000; 2006), «Дні паэзіі-2005», у альманаху Берасцейскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Жырандоля» (2008; 2009; 2010), у часопісах «Маладосць» і «Вожык», у газетах «Літаратура і мастацтва», «Наша слова» і «Белорусская нива», «Заря» і «Народная трибуна» (Брэст), «Наш край» і «Intex-press» (Баранавічы). У 2001–2007 гадах у Баранавічах выйшлі чатыры арыгінальныя зборнікі яго вершаў: «Разлукі выраёвыя» (з прадмоваю Міколы Пракаповіча і пад рэдакцыяй Алеся Каско), «Піліпаўка», «Далёкае і блізкае» ды «Палыновыя кветкі».

Тут ужо згадвалася кніжка выбраных твораў Івана Лагвіновіча «Ляда юдолі». Гэты зборнік уклаў Леанід Галубовіч. Ён жа напісаў прадмову і разам з Алесем Каско адрэдагваў кніжку. Адзначалася і тое, што ў зборнік не трапілі творы, напісаныя да 1986 года. Трэба зацеміць і тое, што ў прыжыццёвыя арыгінальныя зборнікі паэта і ў гэты,

пасмяротны, не трапілі вершы, друкаваныя ў альманахах. Некаторыя ж вершы пасля першапублікацыяў былі перапрацаваныя: мяняліся загалоўкі, строфіка, радкі і словы. Можна сказаць, што І. Лагвіновіч кіраваўся правілам Максіма Багдановіча: поспех дасягаецца «праз мерны, нудны труд». Думаецца, творчы патэнцыял паэта ў значнай меры рэалізаваўся і таму, што з сярэдзіны 1980-х у нябыт адышла «ждануаўская эстэтыка», якая скоўвала шмат каго з творчых людзей.

Творчасць І. Лагвіновіча атрымала добрую ацэнку: ягоны зборнік «Палыновыя кветкі» адзначаны абласной літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка (2008), ягоныя вершы Міхась Скобла ўключыў у анталогію паэзіі XX стагоддзя «Краса і сіла», пра ягоную творчасць ухвальна пісалі не толькі Мікола Пракаповіч, Леанід Галубовіч ды Алесь Бакач. Але таму, хто будзе вывучаць спадчыну паэта, яшчэ належыць заняцца і бібліяграфіяй (яна ўжо часткова складзена і захоўваецца ў Баранавіцкай гарадской бібліятэцы імя Валянціна Таўлая), і тэксталогіяй. Асобныя і больш складаныя тэмы – рыфмоўка, метрыка, рытміка і фоніка твораў І. Лагвіновіча, іх танальнасць. Не буду тут вылічваць, колькі вершаў паэт напісаў у мажоры і колькі ў міноры, адзначу толькі тое, што ў загалоўках Лагвіновічавых твораў не раз сустракаецца слова «элегія».

Калі І. Лагвіновіч безнадзейна захварэў, сябры вырашылі дапамагчы яму выдаць перадсмяротны зборнік «Апошні забой», бо паэт пісаў:

Я шахцёр – мне не страшна
З улоння ды ў лона зямлі.
Што ж, пайду ў мой апошні
Глухі, тупіковы забой.

Пакуль кніжку рыхтавалі, паэт пакінуў нас. Перадсмяротны зборнік стаў пасмяротным. Памяняўся і загаловак: «Апошні забой» стаў «Элегіяй палескага матыля». Гэты назоў ёсць алюзія на адзін з апошніх элегічных твораў І. Лагвіновіча – верш «Суцяшэнне», у якім паэт пісаў: «Я ведаю, пасмяротна Радзіма мяне ўзнагародзіць Ордэнам Залатога Палескага Матыля».

Побач з апошнімі вершамі Івана Лагвіновіча (яны тут не ўсе) у гэтым зборніку змешчаны і некаторыя выбраныя творы з яго ранейшых кніжак. Будзем спадзявацца, што зборнік будзе прыязна сустрэты тымі, каму раней яго паэзія была невядомая. І на тое, што з часам Радзіма пасмяротна ўзнагародзіць паэта грунтоўным томам ягоных твораў.

*Анатоль Сідарэвіч*

**Малітва беларуса**

Святы Божа, святы моцны,
Святы несмяротны!
Пакажы нам шлях збавення –
Годны, незваротны.
Абаронца справядлівы
І суддзя праўдзівы –
Бездакорны, незаменны,
На ўвесь свет адзіны!
Ты – найпершы й найапошні,
Божа ўсюдыісны!
Бачыш нашага бязладдзя
Выступы-крывізны.
Знаеш нашых змрочных думак
Хібы і заганы,
Як вакол няшчасцяў-бедаў
Ходзім мы кругамі.
Заблудзіліся ў грахоўных
Лабірынтах цемры:
Кветку-папараць шукалі
Ў зарасніках церняў.
Прымушалі нас маліцца
Ідалам вар’яцкім,
Зневажалі, выганялі
З цэркваў уніяцкіх.
Міласэрны, добры Божа!
Дай надзею – грэшным,
Выведзі з палону здзекаў,
Ацалі, суцеш нас;
Бо Ты ведаеш, якія
Мы панеслі страты
На шляху да лепшай долі,
Да святла і праўды.
Уладару ўсемагутны!
Будзь заўсёды з намі,
Памажы на землях продкаў
Стаць гаспадарамі.

Навучы на роднай мове
Гаварыць і слухаць.
У імя Айца, і Сына,
І Святога Духа.
Амін.

## Неслух

Са мной не спазнаўшы шчасця
На сцежках зямной юдолі,
Пегас мой някідкай масці
Падаўся да лепшай долі.
Параіў мне пастарацца
Няўдзячную справу кінуць,
Заняцца грашовай працай,
Набыць, асядлаць машыну.
Аднак я, дзівак і неслух,
Штодня за сталом пісьмовым
Сядлаю старое крэсла,
Гаротную пешчу мову.

* * *

Хай таму гаротніку-пакутніку,
Хто пасмеў назвацца песняром,
Будзе свечкай кіяшок трыпутніку,
Курганок пры сцежцы – алтаром.
Выцягнуў ён карту масці чорнае
З той калоды, што тасуе лёс;
І яго не раз хвароба зорная
Праз няўдачы давядзе да слёз.

* * *

Шчырых аднадумцаў-аднаверцаў,
Крытыкаў-дарадцаў не стае…
Чарнавыя варыянты вершаў
«Даспяваць» пакіну на стале
І пайду на водар медуніцы,
Покуль дзіўны кветнік не завяў.
Там сярэбранае дно ў крыніцы,
Залатое горла ў салаўя.
Пеюна таго Гадулька слухаў,
Сахарчук з тае крыніцы піў…
Прэч з вачэй маіх, назола-скруха!
Не марудзь, дарогу саступі.

* * *

Над сціплай вясковай хатай,
Над гордым сталічным гмахам,
Над папараццю і мятай,
Над зверам лясным і птахам –
Бурштынавы звон.
                    Адкуль ён?
На неба зірнуў і ўспомніў:
Мікола Купрэеў кульбай
Пастукаў у бубен поўні.

**Агармыш**

На мікрааўтобусе
Ў Новую Мыш
Я ехаў з сябрамі
З радзімы Багрыма,
І рыфмаю-рэхам
Гара Агармыш
Асацыятыўна
Азвалася з Крыма.
Пад ёю
Яшчэ ад савецкіх часоў
Мяне тры разы
Прывячаў санаторый,
Лагодзіў гаючаю
Ружай вятроў
Рэльефных абшараў
Прыморскай прасторы.
Гравійкаю
Праз гарадок Стары Крым,
Бы прашчур да ідала
На пакланенне,
Туды прыязджаў
З Ялты хворы Максім
З апошняй надзеяй
На цуд ацалення…

## **Носьбіткі святла**

*Святлане Варонік*

Прыгожа-светлая, як поўня веснавая
Над расквітнелым яблыневым садам…
Прымроілася шараю гадзінай
Аблічча берасцейскай чараўніцы,
Таленавітай аўтаркі вярлібраў
Пра вечныя каштоўнасці жыцця.
У полі паміж горадам і вёскай
На скрыжаванні тракту і прасёлка
Бяроза нагадала мне паэтку –
Яны абедзве носьбіткі святла!

**У вянок Ніне Мацяш**

*Шаноўная ў Берасці й Луцку,*
*Прызнаных майстроў каляжанка,*
*Яна мяне па-паляшуцку,*
*Як роднага, звала Іванкам.*
*З уласнага чарнавіка*

Жалобныя дні ў літарацкай сябрыны:
Бязмерная страта – няма нашай Ніны…
Схіліце галовы, мужчыны й жанчыны,
Аддайце належнае мужнасці Ніны!
У вечнасць пайшла – да Купалы, Скарыны…
Сярод знакамітых ёсць месца для Ніны.
Смуга наплывае з палескай нізіны
І смуткам стаіць над магілаю Ніны.
Як смага крыніцы, як храма руіны –
Тры гэтыя словы: няма нашай Ніны…
20–25 снежня 2008 г.

## Ручнік

Пры святле начное бліскавіцы
Дзверы ў свет дзяцінства адчыніў,
Дзе вісеў на покуці ў святліцы
Вышываны крыжыкам ручнік.
Сярод кветак радасна-чырвоных –
Чорныя, як смутак мой, лісты;
А над імі – словаў пераздзвоны
Мудрых, па-евангельску святых:
«Я ў жыцці нічым не выдаюся,
На зямлі – араты, сейбіт, жнец,
Ды калі я Госпаду малюся,
Бачыць Ён і слухае мяне».
Верш на белых крылах ручніковых:
Прачытай і Богу не грашы!
Той ручнік – кужэльны, адмысловы –
Не для рук – для сэрца і душы.

* * *

На светлым маім падваконніку –
Пачэснае месца вазоніку,
Што ўмее ў пакой зазываць
Вясёлае, яснае сонейка
І вуснамі кветкі пунсовенькай
У шчокі яго цалаваць.

**Пісьмёны**

Бярозы над крушняй
Раскінулі кроны
Люляць калыскова
Птушыныя звоны.
Пергамент кары
Ў завірухах дублёны,
І час-летапісец
Пакінуў пісьмёны –
Прымальныя для
Карыстання законы,
Прыемныя для
Вымаўлення імёны.
Цэнзурай на друк
Не было забароны
Ні з боку салоўкі,
Ні з боку вароны.

**Найгоршая пакута**

*Рэзервацыю моўную*
*Век дваццаць першы паменшыў*
*Да памеру кватэры,*
*Дзе мушу я лепрыем жыць.*
*З нясканчанага верша*

Пражыў тут некалькі я цяжкіх жыццяў:
Ад сораму за землякоў згараў,
На полі і на плошчы паміраў –
З валошкай кволай у стаптаным жыце,
З нязздзейсненаю марай змагара...
Але з усіх найбольшаю пакутай
Гадзіна тая чорная была,
Калі ад Мовы, мала ў свеце чутай
(Увязненай і ў кайданы закутай),
Надзея вызвалення адышла...

**Сумныя строфы**

1

Цяпер неахвотна
Ляцяць сюды гусі
З паўднёвых шляхоў Адысея,
І ўжо без імпэту
З бусліхаю бусел
Тут ладзіць вяселле.

2

Застрашаны люд
Не наважыўся, струсіў
Пайсці за крывіцкім Майсеем.
Духоўны наш хлеб
На сусальным абрусе –
Пад шклом у музеі.

3

З сяўні свайго сэрца
Я ў роспачы-скрусе
Журбою палеткі засеяў,
Калі зразумеў,
Што няма Беларусі –
Ёсць Беларасея…

* * *

Яе чакалі на Парнасе
Прызнанне, слава і хвала.
Аднак у іх не адбылася
Сустрэча: дзеўка запіла…
Перажаваная штодзённай
Псеўдадухоўнаю іржой,
Пайшла за марай ілюзорнай,
Перасварыўшыся з душой.
Ад дабрабыту да галечы
Адлегласць змерала яна.
І я купіў ёй пры сустрэчы
(Была няўцямнай з бадуна)
Бутэльку таннага віна
І ўскінуў шалік свой на плечы…

* * *

Адну жанчыну суцяшаў:
На трыццаць пятым годзе аўдавела;
Другой спагадна спачуваў:
Не даў Бог мамай называцца;
А трэцюю паслухаў – і заплакаў:
Яе ніхто ніколі не кахаў…

**Святлісты гай**

Багатыя паплавамі
Тутэйшых далін разлогі.
Разуюся – і трава мне
Памые расою ногі.
Пасля навальніцы – чысты
Вясёлкавы дзень над краем!
Бярозавы гай святлісты
Здалёк мне здаецца раем.
Старэчай хадой, няспешна
Іду да яго, малюся,
Учынкам ці думкай грэшнай
Абразіць няўзнак баюся.
Прыхільнік біблійнай прозы,
Нашчадак прамаці Евы,
Паверыў я, што бярозы –
Эдэмскай пароды дрэвы.

**Птушка міласць**

Мне б на яве дайсці
Да таго таямнічага дрэва,
Што здалёк гэтак вабіць
У казачных марах і снах…
Між высокіх галін
Для святых ацаляючых спеваў
Птушка Міласць каплічку
Звіла з залатога руна.
Ад заходніх і ўсходніх
Падманліва-шкодных паveваў,
Ад грахоўных спакусаў
Мяне ўратавала б яна.
Але я заблукаў…
Не ступіць мне ні ўправа, ні ўлева:
З аднаго боку – прорва,
З другога – глухая сцяна.
А наперадзе – хмара
З грымотна-агучаным гневам
Страшыць дзідай, падобнай
Да той, што была ў Лангіна[1].
І вяртаюся я да таполі,
Што згвалчанай дзевай
Забаўляе, люляе ў гняздзе
Байструка-кругана.

---

[1] Лангін, паводле падання, пракалоў дзідай бок укрыжаванаму Хрысту.

**Накцюрн бабыля**

Ахвярна зара дагарае
Ў вянку прамянёвых церняў.
Яшчэ адзін дзень памірае,
Кладзецца ў магілу цемры…
(На дачы самоты начую.)
А неба без поўні. Далёка
Ліхтарыкі-росы не свецяць.
Мой цень забывае дарога,
Мой голас не помніць вецер.
(Дзяцей ненароджаных чую.)
Пакінулі зрэнкі вачніцы
І самі цяпер блукаюць,
Бяссонныя, нібы начніцы,
Прымроенае шукаюць.
(На дачы самоты я плачу.
Дзяцей ненароджаных бачу.)

**Песня для голасу**
**з мяцелічнай скрыпкай**

Конік мой лугавы,
Уяўленню явіся,
З пераспелай травы
Жніўных дзён адзавіся!
Я сняжынку лаўлю
І з расінкай рыфмую…
Больш, чым па салаўю,
Па табе я сумую.
Як ты файна іграў
На нябачных цымбалах!
Гукаў тых серабра
Мне надоўга хапала.
Музе я ім плаціў
За шчадроты натхнення,
Як па лузе хадзіў
І хмялеў ад здзіўлення.
А цяпер замяло
Непазбежнасцю белай,
Дзе ўзышло і расло,
Зелянела, квітнела…
Глушыць шум баравы
Рыфмаваныя словы.
Конік мой лугавы,
Свет зімовы – су-ро-вы!..

**Поле**

1
Змрок смутку сям'ю паланіў.
Гарэла на покуці свечка.
Нашчадкам казаў селянін,
Развітваючыся навечна:
– У жніўні вам будзе што жаць,
Вы толькі насенне пасейце, –
Шырокая ў поля душа
І добрае, шчодрае сэрца.

2
Пры добрым надвор'і
Ўзрасла і паспела пшаніца.
З вялікай ахвотаю
Жала яе маладзіца.
Ужо на змярканні
Вязала апошні снапочак,
Павесіўшы ў небе
На зорку-цвічок свой сярпочак.
На зжатым загоне
Паставіла роўным радочкам
Пяць мэндлікаў гожых,
Бы пяць залатых церамочкаў.
Сустрэў яе любы
Край поля з букецікам мяты,
Цалуючы нёс на руках
Аж да самае хаты.

3
Полем дарога.
Дуб пры дарозе.
Камень пад дубам.
Трэба спыніцца,
Думкі аздобіць
Згадкай шчымлівай.
Тутака ўлетку

Мы ў сорак шостым
Адпачывалі:
Бацька – на камені,
Я – на ўкарэлым
Корані дуба.
Больш паўстагоддзя
Ад таго часу
На гэтым полі
Ад'ячмянела,
Адаўсянела
І аджытнела,
А ўсё вякуюць
Дуб пры дарозе,
Камень пад дубам –
Прошча сяльчанаў,
Месца сустрэчы
З ценямі продкаў.

4

З'ява светла-дзівосная
Мроіцца ў полі,
Набліжаецца, ясніць
Прыхмараны дзень.
Гэта маці,
Нібы паланянка з няволі,
Да мяне ў белай хустцы
З нябыту ідзе.
Пакланілася нізка
Высокаму жыту.
У далонях –
Да працы сялянскае сверб.
Ды згубіла яна
Ў пустазеллі нябыту
Пры паляках у Зыгмуся
Куплены серп.

5

То рыжы вецер паўдня галосіць,
То чорна хмара дажджу сыпне…
Па кім ты плачаш, старчанка-восень,
На гэтым полі? Ці не па мне?
За туманамі гадоў пражытых
Вясна юнацтва – як даўні сон…
А на загонах рунее жыта.
Ці дажыву я да каласоў?

**Назарэт**

Не абяцаў відовішчаў і хлеба,
Не раздаваў пасадаў і чыноў…
– Прарока без улады нам не трэба, –
Сказалі людцы і пайшлі дамоў,
Ягоных не паслухаўшы прамоў.
У родным селішчы не зразуметы,
Ён вырашыў ісці ў Капернавум.
Спыніўшыся за брамай Назарэта,
Ісус абутак выцер аб траву
І попелам пасыпаў галаву.

* * *

Занявесцілася алычына
Ў заваконні кватэры маёй:
Прыручыла мяне, прывучыла
Размаўляць, як з паненкаю, з ёй.
А калі я, парой салаўінай,
Прыгажуню амаль пакахаў,
Ветрык травеньскі квецень з галінак,
Забаўляючыся, скалыхаў –
Белы вэлюм з вясельнай сукенкай,
У якіх яна песцілася…
За сем дзён алычына-паненка
Адцвіла, аднявесцілася…
Спачуваюць суседцы бярозкі,
Што растуць на падворку адным.
…З падваконня, знадворку, пялёсткі
Я змятаю, бо звялі яны.

* * *

Не дзікія восы, не свойскія пчолы
Забралі зналёту настрой мой вясёлы…
Учорашні дзень я пражыў без усмешкі:
Паўсюль ужо вішні ў садах адцвіталі,
Пялёсткі з галін ападалі на сцежкі,
І хоць не наўмысна, іх людзі тап-та-лі!
У старасці, як і ў пару маладосці,
Я неабыякавы да прыгажосці.

* * *

Раслiннае золата
Лотацi i дзьмухаўцоў
Вясне маладой
Для зялёнага ўбрання – аздоба.
Чмялямi i пчоламi
Ставiцца якасцi проба
Пад пiльным кантролем
Адказных хрушчоў-мудрацоў.

* * *

Падбіраючы ноты
Для кроплевых звонаў і стукаў,
Ад сябе страхі-жахі
І змрочныя думкі ганю.
Навальнічная хмара
Ў грымотна-маланкавых муках
Нараджае вясёлку
Прыгожаму летняму дню.

* * *

Была з боку спёкі саступка
Дажджу, што ішоў да ляска, –
І каня сасмяглаю дзюбкай
Сцалоўвае кроплі з лістка.

**Рамансавы санет**

Лятучая ладдзя інтымнай асалоды
Далёка занясла! Ад нас за паўвярсты
Да айсбергавых гор, да мора прахалоды
З экватара цячэ пад параю Гальфстрым.
І ёдзісты туман прылашчыў цвердзь і воды,
Заблыталіся ў ім салёныя вятры.
Аголеных грудзей мускатна-вінны водар
Свядомасць ап'яніў, пачуцці абвастрыў.
Як быццам трапіў я ў палон галюцынацый
І з рэчаіснасцю стасункі разарваў.
Такою цяжкаю здаецца галава,
Што не магу прыўстаць, перажагнацца.
А сон ужо замкнуў павекі-аканіцы
Суцешлівых вачэй сяброўкі-чараўніцы.

**Адвячоркавая драма**

Енчыць ад болю
Мой доўгі цень…
Пераходзячы вуліцу
На зялёны дазвол светлафора,
Ён прамарудзіў,
Адстаў ад мяне –
І трапіў пад колы
Аўтамабіля.

## Хто дзе?

– Хто там? Хто там?! –
Пытаецца Рэха.
– Гэта ты там, –
Абураецца Голас, –
А я – тут!

* * *

Стаяць на новым зрубе кроквы,
Бы цесляў спыненыя крокі.

**Песімістычна-аптымістычны дыпціх**

1
Прайду сто метраў –
І дранцвеюць ногі,
То ў паясніцы, то ў баку кальне…
Вандровак пешых дальнія дарогі
Смугой тугі закрыты для мяне.
Збяднеў мой свет
На колеры і гукі…
Цяпер Нясвіж далёкі, як Парыж.
…Вучуся складваць
На грудзіне рукі,
Каб правільны атрымліваўся крыж.

2
Вятры-ліхадзеі бярозу раздзелі…
Ну што ж, пастаю пад зялёнай сасной.
У вырай шпакі, салаўі адляцелі,
Але вераб'і засталіся са мной.
Таму і не скарджуся, не дакараю,
Хоць снежань ужо набірае разбег.
У межах бацькоўскага, роднага краю
Заўсёды знайду суцяшэнне сабе!

## **Маналог расчараванага**

*Мы с тобою как разные птицы,*
*Что ж нам ждать на одном берегу?*
*Мікалай Рубцоў*

Мы адно аднаму
Ранаў сэрца цяпер не загоім,
Бо не помнім ужо
Назваў лекавых сродкаў такіх...
Сярод бліжніх тваіх
Пачуваўся я голым ізгоем,
Ды было яшчэ горш,
Калі бавілі час мы ўдваіх.
Пераконваў сябе,
Што я ў пушчы блуканняў загінуў
І па мне над радзімай
Галосяць наўзрыд журавы.
Я нічога ў кватэры
На згадку табе не пакінуў,
Адно волас упаў
З пасівелай маёй галавы...

**Васіліна**

Умаўляла мяне ў горкі час,
Калі ехаць збіраўся дадому:
– Вершаў тых, што ты мне прысвячаў,
Не чытай, не паказвай нікому.
Толькі я іх магу зразумець,
Ацаніць іх высокую вартасць
Тут, дзе будуць смерэкі шумець
І гарэць незгасальная ватра.
Я аддаў ёй усё, да радка,
Што ў гарах на паперу лілося,
Але ў памяці чарнавіках
Назаўсёды імя засталося.

## Прыхадзёнка

*Лідзіі Б-кай*

Дзень на зыходзе, сонца заходзіць,
Ціха з прысадаў цені выводзяць.
Ты пакідаеш свет мой рэальны
І адыходзіш у віртуальны…
Словам ці жэстам не затрымаю,
Бо я такога права не маю.
Пашчыравала дбайна ў кватэры,
Чыста памыла вокны і дзверы,
Смачную страву прыгатавала,
На развітанне пацалавала…
Больш чым каханка, але не жонка.
Кажуць суседзі: ты – прыхадзёнка.

**Вершы для спагаднай жанчыны**

*Эпітафія Адама на надмагіллі Евы:*
*«Рай быў там, дзе ты была са мною».*

1
У грахах прыйшоў, у даўгах
Да пасагу твайго пачэснага…
Не прашу ў цябе пірага,
Дай хоць скібачку хлеба чэрствага.
Без вачэй і без рук тваіх
Згаладнеў і спрагнеў на ростанях.
Прытупіліся зрок і слых,
А вось боль у грудзях – абвостраны.
Не кажы, што прыйшоў дарма,
Што вяртанне занадта позняе…
Больш нікога ў мяне няма:
Ты – адзіная, бо апошняя.

2
Адамкнуўся замок, адчыніліся дзверы
Ў залатую свяцёлку жаночай душы!
А нядаўна яшчэ хіба мог я паверыць,
Што да свята такога пашчасціць дажыць?
Жаўрукі палявыя, анёлаў хваліце!
Слаўце цуды зямныя, лясныя дразды!
У мяне сёння свой, асабісты Вялікдзень:
Уваскрэсла каханне – я зноў малады!

3
Хай нябесныя зоркі, зямныя агні
Пакладуць прамяні на алтар цішыні:
Пасля тлумнай і шумнай людской мітусні
Мусяць ночы маліцца за грэшныя дні.
Сцеражэ нас ахоўнік-анёл з вышыні.
Дарагая, спакоем душу ахіні,
На дабранач мне слова любові шапні
І з усмешкай на вуснах, шчаслівa засні.

4
На прымятай падушцы –
Валасоў пасівелых грыва,
Быццам пеністая хваля
На беразе мора
Падчас прыліву.
Жанчына прачнецца –
Агучу мае назіранні,
Скажу, што я з ёю
Паехаць да мора хачу.
А пакуль яна спіць –
Памаўчу я,
Каб сон не параніць.

5
У змроку вечара, у цемры ночы
Ні змрочна мне, ні цёмна не бывае,
Бо прамянямі валасоў жаночых
Спагадны лёс мой побыт асвятляе.

6
Толькі тады,
Калі ледзь чутна
Барвовакрылы птах дзянніцы
Пастукае ў вакно святліцы
І загадае нам прачнуцца ,–
З палону рук маіх каханку
Я адпушчу ў абдымкі ранку.
Толькі тады!

7
У цяжкі час пякельнай мукі
Ты ад ганебнага слупа
Аслабаніла мае рукі
І абняла, каб я не ўпаў.
Я акрыяў. Удзень і ўночы,
Якое б неба не было,
Твае валошкавыя вочы

Праменяць мне ў душу святло.
У галаве і ў сэрцы ясна,
Утульна ў хаце і ў двары.
Цяпельца згоды не пагасла,
Ў надзейным агмяні гарыць.

**Маналог пакінутага**

Цягнік пасажыраў
Схапіў і паехаў,
На стрэлках віхлява
Хвастом памахаў.
Павёз на край свету
Са здзеклівым смехам
Жанчыну, што я
Не на жарт пакахаў.
Сціхае ў палёх
Хахатлівае рэха:
– Ха-ха!!!
Ха-ха-ха!!
Ха-ха!
Ха-ха-ха…
Ха-ха…

**Голас з магілы**

*З народнага*

Дзяўчыну засватаў –
І з братам яе выпіваў.
Вяртаўся дахаты –
Вясёлыя песні спяваў.
Мой вораг заклятый
За мной цікаваў-віжаваў –
І падпільнаваў…
Нажом з усёй сілы
Нанёс мне смяротны удар.
Хусцінкаю мілай
Манашкі накрылі мне твар.
Паклалі ў магілу
Дыякан, цырульнік, паштар.
Чацвёрты – карчмар.
Забыты і пыльны,
Пры бітай дарозе старой,
Мой камень магільны
Вякуе адзін пад гарой.
Сказаць ён бяссільны,
Хто прахне ў магіле сырой:
Лайдак ці герой.

**Трынатра ў стылі хоку**

Шэптам пялёсткаў
Ружа прасіла вады.
Дзень. Тыдзень. Месяц.
Анёл уструбіў,
Але дождж не праліўся.
Ружа завяла.
Бог справядлівы
Гэтак яе пакараў
За ганарлівасць.

* * *

Паабедаўшы семкамі з шышкі,
Дзьмухнуў дождж у чароўны свісток:
Разарвалася сэрца пупышкі –
І з’явіўся зялёны лісток.

* * *

Падышла сцяжынка да ракі.
Бераг даў ёй хустку з асакі.
У высокай і густой траве
Будзе схоў ад спёкі галаве.

* * *

Саспелым плодам сонца хіліцца
Да той мяжы, дзе хвойны лес;
І далягляд зубатай сківіцай
Яго надкусіць. Потым… з’есць.

* * *

Паўз поле, дзе азіміна рунела,
Сцяжынка да каліны прывяла.
Ад сораму яна пачырванела:
Раздзеў яе кастрычнік дагала…

* * *

Да жанчын заляцацца –
Не тыя гады:
Я цяпер на апошняй
Жыццёвай дарозе.
Наматаю на палец
Прамень залаты
Заручальным пярсцёнкам –
На вернасць бярозе.

**Праводзіны ластаўкі**

На кругі свае вяртайся, ластаўка,
Якіх ты шмат акрэсліла ў паветры,
Гняздо будуючы,
Дзяцей гадуючы,
Іх лётаць вучачы.
У экзатычных пальмавых гаях,
У райскіх птушак
Без турбот гасцюючы,
Не забывай,
Што мы цябе чакаем –
Сініца,
Верабей
            і я.

* * *

Да самоты мукаю прыкуты,
Аздабляю вершам шэры будзень.
І няхай за творчыя пакуты
Моцны сон узнагародай будзе.

**Суцяшэнне**

Я ведаю, пасмяротна
Радзіма мяне ўзнагародзіць
Ордэнам Залатога
Палескага Матыля.
Лагоднаю летняй парою,
Няхай сабе і нядоўга,
Будзе ён красавацца
На зялёнай стужцы
Раслінкі-самасейкі,
Што да сонца памкнецца
З магільнага капца.

**Адзіная**

Пастукаюся ціха апаўночы
Нясмелаю, няцвёрдаю рукой.
Прыслухаешся і расплюшчыш вочы:
– Каму няўцерп трывожыць мой спакой?
Азвуся. Кацянятка недаверу
Нябачным ценем выйдзе за парог.
Пакуль ты будзеш адчыняць мне дзверы,
Я абаб'ю з абутку пыл дарог.
– Пайшоў Іванам, а вярнуўся Янам,
Быў вальнадумцам, зараз – уніят.–
Схілюся галавою пакаяннай:
Хай ляжа на яе рука твая.
Знямеюць непатрэбныя папрокі,
Забудзецца разводніца-зіма.
І я скажу:
              – Хадзіў я ў свет далёкі –
Там сонечнай такой, як ты, няма.

**Парнас**

Заўсёды напашэве
Папера й самапіска –
Запісваць нашаптаныя
Музаю радкі.
Парнас – гара крутая
З вяршыняю няблізкай.
І кожны верш – прыступка.
Нямала мне такіх
Прыступак трэба ўзвесці,
Каб апынуцца ў храме
Прыгожага пісьменства
Між выбітных майстроў
Прыкмечаным паэтам
І надпіс, хоць на браме,
Пакінуць для нашчадкаў:
*«І я спазнаў любоў».*

**На Дзяды**

Сёння ўвечары я
Да суседкі-ўдавы не пайду,
Рук сваіх ёй на плечы
Даверліва не пакладу,
Пра надзённыя справы
Гаворкі з ёй не павяду –
Сёння ўвечары.
Сёння ўвечары я
І сваю, і чужую бяду
Ад дзвярэй і ад вокан,
Ад лёсаў далей адвяду,
Закапаю ў бары,
Над балотам развею нуду –
Сёння ўвечары.
Сёння ўвечары я
Спажываць буду толькі ваду,
Сорак сёмага года
Згадаю ратуй-лебяду,
І гарбатага старца,
І ў пальцах ягоных дуду –
Сёння ўвечары.
Сёння ўвечары я
На вячысты курган узыду,
На вяршыні яго
Помнік даўнім гадам узвяду,
Мноства кветак прыгожых,
Нятленных да ўзножжа ўскладу –
Сёння ўвечары.

**Музе**

Шмат разоў заракаўся
Цябе не любіць
І сябе пераконваў,
Што ты – не ад Бога,
Нат намерваўся
Злога сабаку купіць,
Каб адпуджваў-брахаў,
Не пускаў да парога.
Сам сабе арыштант,
Ад вакна да дзвярэй
Скульгавелай хадою
Пакой перамерваў.
Білі ў такт маім крокам
То ямб, то харэй
Па разбэрсаных струнах
Разладжаных нерваў.
Вінаваціў сябе:
Не па-людску жыву,
Дазваляю душы
Аддаляцца ад цела.
Сарамоціў цябе:
На маю галаву
Не лаўровы вянок –
Палыновы надзела.
А калі творчы крызіс
Схіляўся на спад,
Адлятала ў былое
Дэпрэсіі сцюжа –
Даравання прасіў,
Услаўляў, асыпаў
Залатымі пялёсткамі
Сонечных ружаў.

**Чытаючы эпітафіі**
**Іманта Зіядоніса**

Гэты свет мы з табою
Для шчасця стваралі,
Пачыналі з малітвы
На нерушы старту,
Нашу Трою знябытую
Мы адраджалі
І забытую Спарту.
Твае грудзі, жанчына,
У маку чырвоным,
У зубах у мяне
Васілёк сіні-сіні…
Выспяваюць магутныя
Ў кронах зялёных
Жыватворныя сілы.
Не віхурыцца пыл,
Нашы ногі не вязнуць,
І не цяжка з дарогі
Адкідваць каменне.
Мілатою ўрачыстаю
Льецца на вязы
Залатое праменне.
Дай мне з сонечным маслам
Надзённага хлеба:
Мабыць, людзі ўжо выйшлі,
І нам не спазніцца б…
Да радзіннага поля
Кліча жаўранак з неба,
З прыдарожжа – сініца.
Салаўінага хлеба дай
З сонечным маслам,
Бо ён дабраслаўёны
Бярозай і вішняй.
Прыпынімся, пастойма
Над расінкай нязгаслай,
Над слязою ўсявышняй.

Пасля ночы купальскае
Дзень будзе Янаў;
Мы павінны пакінуць
Сляды нашы ў полі,
Каб ні жыта, ні бульбы
Не кранула загана
Аніколі-ніколі!
Я задумлівы сёння,
Маўклівы, прабач мне,
Не сказаў, дзе мы з братам
Учора касілі, –
У зубах у мяне,
Ты ж сама гэта бачыш,
Васілёк сіні-сіні…

**Неспакой**

Падчас вялікіх
Адкрыццяў-цудаў
Сумнеў на сэрцы –
Біблейскім каменем:
Не стаўся б сябар
Прадажным Юдам,
А брат старэйшы –
Забойцам Каінам.

* * *

Жабраком беспрытульным
На суднай вярсце,
Дзе маркота самоты
І церняў уколы,–
Не кляні гэты свет,
Калі верас цвіце
І на ім завіхаюцца
Рупныя пчолы.
Торбу старца пакінь
У траве пад кустом,
Над люстэркам крыніцы
Аблiччам схiлiся,
У галiнкi пазычаным
Чыстым лiстом
Вытры слёзы пакуты,
Праз боль усмiхнiся.
Пры дарозе тваёй –
Дзiвасiл, чыстацел,
А не толькi шыпшына –
Здзiчэлая ружа.
На юдольнай вярсце,
Калi верас цвiце,
Не страшы сябе будучай
Лютаўскай сцюжай.

* * *

Каб я мог нейкім чынам
Траціну пражытых гадоў,
Быццам яблыкі з яблыні,
З кроны жыццёвае стрэсці,
За табой, маладой,
Я пайшоў бы рашучай хадой –
Валасы ў дзве касы
На мяжы з васількамі заплесці.
Пад бярозаю камень
Акрыў бы травой лугавой,
Пасадзіў бы цябе
Ў самай гушчы птушынай гамонкі,
Закахана прыпаў бы
Яшчэ не сівой галавой
Да каленяў тваіх
У пылку дзьмухаўцоў і рамонкаў.

**Туга**

Затопленыя берагі,
Размыты ўсе мае дарогі…
Я сёння п'ю віно тугі
І ем счарсцвелы хлеб трывогі.
Бывай, прасторны вольны свет!
Бывайце, вежы на пагорках!
Пішу адчайны запавет:
Дым Бацькаўшчыны стаў мне горкі.
Упала зорачка мая
На воды цёмныя патопу;
І з поля зроку знік маяк,
Што асвятляў акно ў Еўропу.
Затопленыя берагі,
Размыты ўсе мае дарогі…
Я сёння п'ю віно тугі
І ем счарсцвелы хлеб трывогі.

**Дудар іграў**

Адгадуй валасы да пояса,
Падзялі на тры часткі роўныя,
Запляці парой сенакоснаю
Разам з промнямі сонца яснага
І касою той, што не клеплецца
І не вострыцца, бо не тупіцца,
Пакасі на палетку ростані
Пустазелле маёй журбы.

* * *

Засланяю далонямі твар
На мяжы паміж лугам і лесам.
Сіратлівых лістоў ці не два
Засталося на каліве лета.
Нацянькі, па халоднай вадзе,
Бы паранены вой з поля бою,
Куст каліны насустрач мне йдзе
З акрываўленаю галавою.

**Элегія крываўніку**

З прыдарожнага густога разнатраўя
Праз прасветліны ў штыкетнікавым плоце
Паглядае з ціхай зайздрасцю крываўнік
На мой кроп у дачным садзе-агародзе.
«Не па праўдзе дзеі дзеюцца на свеце, –
Засяроджана заплотнік разважае. –
Мы падобныя, як маткі адной дзеці,
А мяне, аднак, ніхто не даглядае.
Кажуць, назваю нагадваю пра раны,
Дадаюць яшчэ, што непрывабна пахну.
Нізка скошаны, дажджамі прытаптаны,
На мяжы сваёй з апалым лісцем спрахну…»

**Разам**

У ліпеньскі дзень званочкам
Трымціць жаўрукова сола.
Схіляецца над валошкай
Вусаты жытнёвы колас.
Яны паяднаны часам,
Павенчаны светлым ліўнем…
Абняўшыся, пойдуць разам
Пад нож гільяціны жніўнай.

**Паэт**

Памірае паэт.
Пры дарозе лясной памірае.
Два анёлы ляцяць
На святло пакаяннай душы.
Небны колер вачэй
Пуцявіннем сухім выгарае.
І не мроіцца муза,
А бачацца толькі крыжы.
Адступае жыццё, адыходзіць…
Не, не – адлятае!
Разам з буслікам белым
Над лотаццю даўняй вясны.
Яго славы нягучнай
Крушынавы куст аблятае.
А лаўровых вянкоў
Ён не бачыў і нават не сніў.
Нарадзіцца б яму
Армянінам, эстонцам, карэйцам,
Акружалі б цяпер
Не самлелыя ў спёку кусты…
Спачувальна-жалобна
Ўздыхне нахілёнае дрэўца
І замест медзякоў
Пакладзе на павекі лісты.
На радзімай зямлі,
Бы чужынец які, памірае.
Пэўна, доля такая:
Турма ці сума.
А навокал зямля выгарае –
Нас Неба карае!
І нідзе паратунку
Ад пошасці-згубы няма.

* * *

Спачатку я ў кватэры прыбяруся:
Памыю «пасівелую» падлогу,
Павыціраю пыл і павуцінне,
Стол засцялю абрусам светлым.
Затым умыюся і сам
З сунічным пахкім мылам,
Адзену беласнежную кашулю
І лепшы свой, святочны гарнітур.
Стварыўшы знак крыжа перад сабою,
Прачулую малітву прачытаю,
Спагадлівага Бога папрашу,
Каб даў натхнення.
І з чыстым сэрцам
Чыстымі рукамі
Вазьму я чысты ліст паперы,
За чысты стол пісьмовы сяду
Ў пакоі чыстым
І запішу лірычны верш
Пра чыстую любоў
Да Беларусі.

**Дзверы**

Дзверы маёй кватэры
Кшталту хрушчоўскай эры –
З дошак і спецфанеры –
Вочкам глядзяць з даверам.
Іх абмінулі страсці,
І рабаўнік, на шчасце,
Не спрабаваў напасці.
Што ён тут мог украсці?!
Мо два дзясяткі кніжак?
Некалькі місак, лыжак?
Котку, што костку ліжа?
Ці чаравікі-лыжы?
Аберагаюць дзверы
Побыт сірочы шэры,
Думак маіх хімеры,
Што давяраў паперы.

* * *

Берасцяным святлом
Між бяроз на грудку
Ад хандры гарадской
Ацаляю душу.
А зязюля раз-пораз
Ку-ку ды ку-ку:
Лічыць, колькі я вершаў
Яшчэ напішу.

**З цыкла «Спакусніца»**

Зноў чую трубны голас з неба
І адчуваю цвердзь зямлі.
Збяры сяго-таго да хлеба,
Віна расстайнага налі.
Пайду я…
            Трэба слёзы ўцерці,
Бо я спазнаў ужо з табой
Каханне большае за сэрца
І большы за каханне боль.

**Апошні забой**

У мяне вобмаль часу:
Адно каб грахі замаліць,
Развітацца за звычаем продкаў,
Радзіма, з табой.
Я шахцёр – мне не страшна
З улоння ды ў лона зямлі.
Што ж, пайду ў мой апошні
Глухі, тупіковы забой.

* * *

Смерць мая не стане цяжкай стратай.
Роспач вашых сэрцаў не кране.
Я не быў ніколі Герастратам.
Хутка вы забудзеце мяне.

**Запавет**

Я пад зоркаю цёмнай
Талісман свой згубіў,
Часта з чашы бяздоннай
Горыч роспачы піў.
Землякі! Калі ўлетку
Сном апошнім засну,
Палыновыя кветкі
Лягуць хай на труну.
Не шукайце на помнік
Мармур або граніт –
На капец кіне поўнач
Згаслы метэарыт.
Быў я сціплым паэтам,
Не ўслаўляў міражы –
Помніка і букетаў
Лепшых не заслужыў.

## Элегія палескага матыля

*Пасляслоўе*

Такой парой года, калі ўсё ў прыродзе цягнецца да сонца, а з-пад зямлі вонкі выходзяць парасткі жыцця, неймаверна цяжка думаць і пісаць пра смерць чалавека. Тым больш яшчэ не надта старога. Хіба што прызванне яго – Паэт – схіляе да падобнай магчымасці і нават непазбежнасці такога сыходу (бо сапраўдныя творцы зазвычай недаўгавечныя). Іван Піліпавіч Лагвіновіч (16.01.1940–29.03.2011) ведаў і прадчуваў свой хуткі сыход. Духоўна і душэўна рыхтаваўся сустрэць яго годна і мужна. Яшчэ ў маладосці цяжкая падземная праца ў данбаскіх шахтах падарвала яго здароўе. Вясковы па нараджэнні (хутар Запрапасць на Ганцаўшчыне, непадалёк Малькавіч), выхаваны ў традыцыйным нацыянальным духу, ён выгадаваў у сабе натхнёную творчую натуру. Пісаў са школы (меў няпоўную сярэднюю адукацыю і прафтэхвучылішча), на самым пачатку 1960-х пачаў друкавацца ў газеце «Чырвоная змена». Шмат часу аддаваў самаадукацыі: засвойваў літаратурныя азы, выпрацоўваў уласны стыль, спасцігаў найлепшыя ўзоры савецкай, беларускай і сусветнай паэзіі. Пры гэтым заставаўся самабытным. Друкаваўся ў калектыўных зборніках яшчэ жывучы ў Данбасе, а пасля пераезду на Радзіму (жыў у Баранавічах) выдаў пяць кніг у прыватных выдавецтвах, яго творы былі змешчаны і ў шырокавядомай важкай анталогіі беларускай паэзіі «Краса і сіла».

Апроч усяго Іван Піліпавіч быў добрасумленным і шчырым хрысціянінам (уніятам па веравызнанні). Маючы, па нашых мерках, неблагую шахцёрскую пенсію, шмат каму з людзей дапамагаў матэрыяльна, асабліва сваім баранавіцкім калегам у святой справе нацыянальнага адраджэння. Падпісваўся ці не на ўсе беларускамоўныя літаратурныя выданні. Быў простым, бясхітрасным, бескарыслівым чалавекам у любых жыццёвых варунках. Ціхая спагадлівасць да людскога свету была дамінантнай у яго нялёгкім жыцці. Усведамляючы сябе як паэта і маючы

уяўленне пра свой талент, ён пры гэтым ставіўся да ўласнага прызвання як да замольвання сваіх грахоў перад Усявышнім, які надзяліў яго правам голасу і слова. Не пожадам ухвалы і славы, а магчымасцю духоўнага ачышчэння праз пакуты творчага азарэння была акрэсленая ім яго ўласная місія на гэтай зямлі. На жаль, такія не паказныя таленты рэдка калі заўважаюцца і часам бывае, што літаратурны працэс змывае іх сваім цячэннем, як вясновая паводка падмывае і цягне за сабой адзінокае дрэва са схілу нетрывалага тарфянага берага... Дзякаваць Богу, з Іванам Лагвіновічам не ўсё так проста. Лепшае з напісанага ім не асела мутным глеем на дно літаратурнага рэчышча. Яно заўважнае кожнаму чытацкаму воку, кожнай уважнай душы з прыхільнікаў краснага пісьменства сваім незнарочыстым натуральным гучаннем. Да таго ж сваёй непадробнасцю і асабістай лірычнай самотлівасцю некаторыя яго вершы маюць адметы класічна-хрэстаматыйнага характару. Яго творы, традыцыйныя ў мысленні і стрымана-пачуццёвыя ў метафорыцы, заўжды дапасоўна і выкшталцона ўкладзеныя ў разнамерныя кідка-запамінальныя формы. Пошук гармоніі надае яго творам даверу і разумення. Як любы самакрытычны чалавек, Іван Лагвіновіч быў схільны да самаіроніі, за якой дзіўным чынам прыадкрывалася прадбачанне будучыні свайго сціплага, на яго думку, літаратурнага плёну.

Я ведаю, пасмяротна
Радзіма мяне ўзнагародзіць
Ордэнам Залатога
Палескага Матыля.

Мне ўжо даводзілася пісаць слоўца да зборніка яго вершаў «Ляда юдолі». Гэта было дзевяць гадоў таму. І вось сёння наноў перачытаў той тэкст і вершы паэта з пяці ім выдадзеных кніг... Шчымлівым болем працяла думка: Госпадзе, а яшчэ ж учора... Так-так, было жывое ліставанне, тэлефонныя глыбокія, эмацыйна-прыглушаныя размовы, паразуменне з паўслова, спадзевы на сустрэчу... Нават не верыцца, што мы з Іванам бачыліся толькі аднойчы, дзесяць гадоў таму мелькам (ледзь паспеўшы парукацца) у рэдакцыі

тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», хоць нашы біяграфіі і лёсы ў нечым вельмі блізкія. Асабліва, як мне падаецца, у вычуванні жыцця і смерці. Калі адыходзяць такія людзі, як Іван Лагвіновіч, пачынаеш адчуваць сябе бездапаможным сіратой, прынамсі, у літаратуры. Мае жаль і шкадаванне непамысныя... Прабач, Іване, хай Бог пазнае і прывеціць цябе. І хай будзе пухам праху твайму радзінная зямля ў Малькавічах...

Я ўжо неяк пісаў у лімаўскіх «кулуарах»: «Варта было б выдаць зборнік Івана Лагвіновіча і нашым дзяржаўным выдаўцам (для адчування важкасці яго паэтычнай творчасці). Як мінімум, дзесяць-пятнаццаць лепшых яго вершаў, на маё меркаванне, дадаліся б да нацыянальнай беларускай паэзіі адметным мастацкім набыткам. І ўвогуле, нашай літаратурнай супольнасці трэба было б дапамагчы паэту з Запрапасці зняць з яго самотнай душы залішнія элегічныя сумненні ва ўласным таленце:

Землякі! Калі ўлетку
Сном апошнім засну,
Палыновыя кветкі
Лягуць хай на труну.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Быў я сціплым паэтам,
Не ўслаўляў міражы –
Помніка і букетаў
Лепшых не заслужыў.

Што праўда, з помнікамі цяпер і ў народных паэтаў праблемы, а вось дабротна выдадзеную сваёй дзяржавай кніжку – Іван Лагвіновіч заслужыў. Хай бы і была – помнікам».

Але ёсць як ёсць. Паэт ведаў гэта. Добра напісаў на адыход свайго сябра і калегі баранавіцкі паэт Алесь Корнеў:

Вянок не насіў ты лаўровы,
Хоць быў яго варты і годны.
Затое вянок ганаровы
Ўскладзем табе кветкава-хвойны.
Хай ночы і дні анямелі –
Табе за іх сёння не сорам.

Бывай! У сваім падзямеллі
Жыві ганаровым шахцёрам.
Твой штрэк, нібы люкс аднамесны,
Ў чаканні гаспадняй паверкі...
А ўсе твае думкі і песні
Хай з намі жывуць... На паверхні!

*Леанід Галубовіч*

## Змест